БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

19 лістапада 1994 г.
Субота
№ 124(13841)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**






Малюнак Віктара ДУБОВІКА.



У апошні час нямала караванаў з дабрачыннымі грузамі прыбыло ў нашу рэспубліку з Германіі. Дапамогу гэту аказваюць розныя грамадскія арганізацыі і проста заможныя людзі. Асабліва радуе падзвіжніцтва простых немцаў, такіх, напрыклад, як муж і жонка Шварц.

Яны маюць трое дзяцей і жывуць у пасёлку Харгесхайм. Лішкаў хатняя гаспадыня і служачы пакуль не накапілі. Тым не менш ахвотна прынялі на аздараўленне нашых дзяцей з Чачэрскага раёна.

Асабліва Шварцаў уразіў стан 12-гадовай Алены Шаўцовай, у якой было вельмі хворае сэрца. Цэлы год шукалі яны магчымасць дапамагчы дзяўчынцы. І ў наступны прыезд Алена была абследавана, а затым праапераравана ў Мюнхене. Шварцам удалося запэўніць кіраўніцтва некалькіх арганізацый у неабходнасці прафінансаваць аперацыю, якая абышлася ў 80 тысяч марак.

Сёння дзяўчынка папраўляецца ўжо. Нямецкія сябры прыехалі яе наведаць. Яны прывезлі падарункі, медыкаменты, усім дзецям вёскі Отар.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Такая "Маёмасць" не ўсім патрэбна?

*Кожны чацвёрты жыхар Беларусі звярнуўся ў спецыяльную камісію для налічэння імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Такую інфармацыю паведаміла начальнік упраўлення арганізацыі чэкавай прыватызацыі Зінаіда Шаўчэнка.*

Найбольшую актыўнасць пры гэтым, паводле звестак на 15 лістапада, праявілі жыхары Магілёўскай вобласці. І толькі кожны дзесяты жыхар Віцебскай вобласці, як сведчыць статыстыка, пакуль зацікаўлены ў атрыманні чэкаў. Слабая зацікаўленасць у прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці назіраецца і ў жыхароў беларускай сталіцы. У сярэднім жа на аднаго грамадзяніна рэспублікі да сярэдзіны лістапада прыходзіцца па 87 імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць".

### Камерсанты ці "паразіты"?

*"Жахлівымі" назваў папярэднія вынікі праверкі буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы пры ўручэнні ўзнагарод работнікам Мінскага аўтамабільнага завода.*

У якасці прыкладу ён назваў вытворчае аб'яднанне "Гарызонт", пры якім створаны 33 камерцыйныя структуры. Такія "паразіты" ёсць і ў іншых буйнейшых прадпрыемствах рэспублікі, пры дапамозе якіх размяркоўваецца прадукцыя і "накручваюцца" цэны.

### "Забыты" юбілей?

*Нягледзячы на тое, што да святкавання юбілею беларускага кіно, 70-годдзе якога будзе адзначацца 17 снежня, застаўся ўсяго месяц, праграмы адпаведных урачыстасцей на дзяржаўным узроўні да гэтага часу няма.*

Падстаў для святочнага настрою ў беларускіх кінематаграфістаў сёння, зразумела, мала. Аднак багатая гісторыя гэтага віду мастацтва ў нашай краіне, безумоўна, заслугоўвае да сябе больш пільнай увагі.

### На сваіх дваіх...

*Пінск усё больш становіцца пешаходным горадам. І справа тут не толькі ў павышэнні тарыфаў на праязныя дакументы. З 98 аўтобусаў, якія абслугоўваюць горад, 56 ужо маюць прабег звыш паўмільёна кіламетраў, 19 — ад 400 да 500 тысяч і толькі 11 — менш за 200 тысяч кіламетраў.*

Усё гэта прывяло да таго, што такая старая аўтагаспадарка цяпер прастаяла ў рамонце на тры тысячы дзён больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Зразумела, што значна скараціўся выхад аўтобусаў на маршрутныя лініі. Ды і вялікія затраты на рамонт неабходна кампенсаваць з гарадскога бюджэту, які цяпер, як вядома, амаль пусты. У выніку кожны пяты быў пасажыр вымушаны стаць пешаходам. Такая сітуацыя цяпер назіраецца ў большасці гарадоў рэспублікі.

БЕЛІНФАРМ.

### Эх, яечка, куды ты коцішся?..

*Значна знізілася апошнім часам прадукцыйнасць птушкафермы калгаса "Авангард" Асіповіцкага раёна.*

Усё менш атрымліваюць тут яек і мяса. Так, за 10 месяцаў у гандлёвую сетку адпраўлена 875 тысяч штук яек і 109 тон курынага мяса, што намнога менш чым летась. Знізілася і колькасць птушкі і цяпер яе тут — 30 тыс.курэй-нясушак, 73,5 тысячы бройлераў. І ці ўтрымаюцца гэтыя лічбы, невядома. Бо птушкаводаў не задавальняе якасць камбікорму, катастрафічна не хапае розных медыкаментаў, няма грошай на газ. Усё гэта і прывяло да таго, што ў дзень адсюль у гандлёвую сетку адпраўляюць амаль у два разы менш яек, чым год-два таму.

Іван СЦЯПУРА.

### Рада – пра мову

*У Віцебску прайшоў справаздачна-выбарчы сход абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

На сходзе падымаліся шматлікія балючыя пытанні творчага жыцця. Прынамсі, гаварылася пра цяжкі лёс беларускай мовы на Віцебшчыне, мовы, якая, па сутнасці, з'яўляецца крыніцай духоўнасці нацыі, адным з паказчыкаў яе жыццяздольнасці.

Уладзімір МІХНО.

### Помнік архітэктуры пад пагрозай

*40 мільёнаў рублёў ужо ўкладзена ў справу выратавання Барысаўскай (Каложскай) царквы ў Гродна — помніка архітэктуры, збудаванага ў XII стагоддзі, старэйшай пабудовы на тэрыторыі горада.*

Пагроза размыцця высокага берага Нёмана, дзе размешчана царква, яшчэ застаецца, хаця спецыялісты паклалі ўжо ў раку спецыяльныя блокі. Цяпер рыхтуецца канчатковы праект выратавання Каложы.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### Жыць па-чалавечы

*Партыя разумнага сэнсу (ПРС) — пад такой назвай збіраецца зарэгістравацца новая беларуская партыя.*

Яе галоўная мэта — устанаўленне рэальнага, а не дэклараванага прыярытэту правоў чалавека над правамі дзяржавы. Адной з асноўных задач стваральнікі абвясцілі змаганне за якасць жыцця беларускіх грамадзян, а сваім лозунгам — "Чалавек павінен жыць па-чалавечы". Партыя разумнага сэнсу прапануе рэфармаванне органаў улады, у тым ліку КДБ, МУС, суда і пракуратуры, выступае за стварэнне арміі на прафесійнай аснове, а таксама мае намер займацца і пытаннямі барацьбы са злачыннасцю. Эканоміку "пэрээсаўцы" лічаць пераважнай перад палітыкай. Можна чакаць асаблівую сімпатыю да новай партыі з боку прыгожай палавіны чалавецтва, бо ПРС выступае за карэннае змяненне статуса жанчыны ў грамадстве. Так, яна патрабуе, у прыватнасці, скарачэння для жанчын працоўнага тыдня пры поўнай аплаце з падвоеным каэфіцыентам.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Таксі для вучняў

*Адразу дзве праблемы вырашаны адной пастановай Гродзенскага гарвыканкама. Згодна з ёй, маршрутныя таксі, якія рэгулярна курсіруюць да рэчавага рынку, па дарозе назад робяць прыпынкі ў аддаленых мікрараёнах Вішнявец і Прынёманскі і падвозяць у цэнтр вучняў спецыялізаваных школ.*

Такім чынам, дзеці, нягледзячы на транспартныя праблемы, ў свой час паспяваюць на ўрокі. Праезд у "маршрутках" для іх бясплатны — дастаткова паказаць вадзіцелю вучнёўскі праязны білет. З другога боку, таксі таксама не прыходзіцца вяртацца з рынку пустымі.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Курсы валют на 18 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Прыор" | 7200 | 7400 | 4650 | 4780 |
| "Алімп" | 7280 | 7470 | 4758 | 4893 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# ЛЮСТРАНЫ ЭФЕКТ

□ Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"

Сярэдзінны тыдзень лістапада ў храналагічных святцах найноўшай беларускай палітыкі зойме асобную і адметную старонку. Па сутнасці, яго адметы абумоўлены развіццём палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы як на мінулым тыдні, так і яшчэ раней. Таму скажам некалькі слоў пра перадумовы. Парытэтнае функцыяніраванне праслаўтай уладнай трыяды, характэрнае для краін, маючых неабходны запас традыцыйнай трываласці, у Беларусі пакуль застаецца ў сферы пажаданай рэальнасці. Сочынскія "вакацыі" прэзідэнта скарысталі не толькі апазіцыйныя плыні і былая "партыя ўлады", а і парламент. Вядома, што адной з прэзідэнцкіх перамог лічылася (і не без падстаў) ухвала ВС рэформы савецкай мясцовай улады. Але так званая "прэзідэнцкая вертыкаль" паранейшаму ў будаўнічых рыштаваннях. Больш таго, цяпер яна на нявызначаны тэрмін пазбавілася легітымнага падмурка. Дзеянне парламенцкай пастановы было прыпынена рашэннем Канстытуцыйнага суда. Пацярпеўшым бокам, без сумненняў, лічыўся прэзідэнт. Паралельна парламент вырашаў выбарчую дылему, якая таксама прама закранала інтарэсы прэзідэнта. Мажарытарны ці мажарытарна-прапарцыянальны варыянт выбараў ствараў прававое поле прыцягнення літаральна для ўсіх палітычных сіл, бо заключаў у сабе прынцыповы сэнс. Кансервацыя апрабаванай мажарытарнай сістэмы адпавядала спадзяванням выканаўчай улады, значыць, і прэзідэнта. "Партыйныя спісы" аўтаматычна станавіліся б "плацінавымі карткамі" на права ўваходжання ў новы ВС. Касметычная рэстаўрацыя існуючага заканадаўства ніяк не задавальняла партыі. Другая па ліку (пасля ціхай смерці перабудовы ў саюзных маштабах) беларуская парламенцкая асамблея можа заняць вялізную нішу ў структурах дзяржаўнай улады, таму і кіпелі страсці дэпутацкага сходу і, скончыўшыся на паўслове, мелі сімвалічны фінал. Хваля антыпрэзідэнцкіх настрояў вылілася ў бурныя дэбаты аб "прэзідэнцкай вертыкалі". На тым парламентарыі і раз'ехаліся. З Масквы (дзе адбыліся перамовы з В.Чарнамырдзіным) прыбыў прэзідэнт і ў той жа дзень у вячэрняй "Панараме" выступіў так, як не выступаў ніколі. Пасля чаго ў суботу прайшло пасяджэнне Кабінета Міністраў, у панядзелак у магазінах тэрмінова замянілі некаторыя "цэннікі". Усё вышэйназванае і ўтварыла фон, на якім разгортваліся тыднёвыя падзеі. Але, паўторым, іх дынаміка абумоўлена і запраграміравана раней.

13 лістапада А.Лукашэнка падпісаў указ № 200 аб мерах па ўпарадкаванню цэн на асобныя харчовыя тавары і сацыяльнай абароне насельніцтва. Згодна з ім, з 14 лістапада аптова-адпускныя цэны, рознічныя цэны на хлеб масавых і дыетычных гатункаў, малако, тварог і шэраг іншых прадуктаў павінны былі панізіцца. Што і адбылося. Указ тычыўся тых тавараў, па якіх памер павышэння цэн да ўзроўню 1 лістапада перавысіў 18 працэнтаў. Дакумент прадугледжваў комплекс стабілізацыйных мер, суб'ектам гаспадарання ўсіх форм уласнасці рэкамендавана аказаць адрасную сацыяльную падтрымку нізкааплатным работнікам. У панядзелак магазіны і гандлёвыя кропкі апынуліся ў цэнтры ўвагі ўлад, журналістаў і, зразумела, пакупнікоў. Здаецца, падобны прэцэдэнт (зніжэнне цэн) уразіў і Расію. У астанкінскіх інфармацыйных праграмах беларуская навіна падавалася асобным радком. Дарэчы, у Маскву з рабочым візітам адбылі ў той жа дзень віцэ-прэм'ер рэспублікі М.Мяснікові, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў для паглыблення ўсебаковага супрацоўніцтва паміж краінамі. Прайшла і традыцыйная прэс-канферэнцыя ў Доме ўрада. Міхаіл Чыгір расказаў аб прычынах лістападаўскага цэнавага буму. Прэзідэнт і Кабінет Міністраў прынялі па ўтаймаванню "свабодных" цэн экстранныя меры. У брыфінгу ўдзельнічалі віцэ-прэм'еры С.Лінг, В.Ганчар і У.Гаркун. Паводле В.Ганчара, указ А.Лукашэнкі — "палітычнае рашэнне". А аўторак, акрамя паралізаваўшай сталіцу галалёдзіцы, быў адзначаны публічнай рэакцыяй на рэзкае выступленне прэзідэнта ў прамым эфіры і пасяджэнне ўрадавага кабінета з парадкам дня "Аб сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Публікацыі ў прэсе цяжка лічыць узорам шчырасці, аднак нейкія меркаванні выказаны. У тэматычных блоках змешчаны і змяшчаюцца паведамленні аб падтрымцы дзеянняў прэзідэнта, напрыклад, Народным саюзам Беларусі "Ачышчэнне" і інш. Між тым, актывізавалася апазіцыя, у прыватнасці, дэпутацкая фракцыя БНФ у парламенце, якая выступіла з заявай. У сераду па ініцыятыве БНФ у Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя, дзе танальнасць выказванняў адпавядала тону заявы. Тым часам прэзідэнт правёў многа сустрэч з "народам". 16-га ўручыў узнагароды групе работнікаў Мінскага аўтамабільнага завода. Пад час такіх сустрэч Аляксандр Лукашэнка тлумачыў сваю пазіцыю і бачанне палітычнай, сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Аднак, бадай, вызначальнай падзеяй тыдня стала наведванне прэзідэнтам Канстытуцыйнага суда, пасля чаго Лукашэнка і намеснік старшыні КС Валерый Ціхіня выйшлі да прэсы і выказалі думкі наконт карыснасці перамоў, а В.Ціхіня правёў і вялікую прэс-канферэнцыю. Як вядома, гутарка прэзідэнта з суддзямі працягвалася паўтары гадзіны. У выніку прэзідэнт папрасіў прабачэння ў КС з нагоды некарэктных выказванняў у адрас апошняга. У сваю чаргу Канстытуцыйны суд перанёс тэрміны разгляду справы аб правамернасці ўвядзення "прэзідэнцкай вертыкалі" (разгляд праходзіў учора) і адклікаў з друку заяву з ацэнкай "некарэктных выказванняў". Валерый Гур'евіч пацвердзіў рашэнне КС аб прыпыненні дзеяння некаторых норм Закона ад 6 кастрычніка г.г. і матываваў мэтазгоднасць гэтай меры. Уключэнне ў парадак работы сесіі ВС праекта аб унясенні паправак у закон аб КС па прапанове Д.Булахава Ціхіня расцаніў як спробу "націску". Цікава, што ён падзяліўся надзеяй: не паўтарыць лёс Валерыя Зоркіна, г.зн. не ўмешвацца ў палітычныя разборкі. Ці магчыма такое? Імклівы час пакажа. Спіраль супрацьстаяння галін улады закручваецца на вачах, і цывілізаваны шлях вырашэння канфлікту не надта відавочны. Вельмі важнае пытанне (па сутнасці, аб уладных прыярытэтах) сёння наўрад ці магчыма цалкам вырашыць: няма "прававога калідора". Нелагічнае, на першы погляд, дбанне ледзь не ўсіх апанентаў прэзідэнта (у іх ліку і апазіцыя БНФ, якую ніяк не "абвінаваціш" у сімпатыях да Савецкай улады) за дэкаратыўныя Саветы мае ўнутраную логіку. Барацьба за ўладу працягваецца і жупел аўтарытарызму ўяўляецца неблагім довадам у далейшых змаганнях. Прынамсі, выбарчая кампанія ў новы парламент хутчэй за ўсё пройдзе пад знакам згадкі пра многія нявыкананыя папулісцкія абяцанні. І тады спрацуе так званы люстраны эфект: "зброя" выканаўчай улады апынецца ў процілеглага боку.



## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### НОВАЯ ВАЛЮТА ДЛЯ ЕЎРОПЫ

*У Франкфурце-на-Майне (Германія) прайшло першае пасяджэнне еўрапейскіх дзяржаў, на якім абмяркоўвалася пытанне аб утварэнні адзінай валюты.*

Паводле меркаванняў спецыялістаў, еўрапейская валюта ўвойдзе ў зварот ужо да 1999 года.

### КАНЕЦ МЕКСІКАНСКАГА "ТАВАРУ"

*Амерыканскія службы па барацьбе з наркабізнесам раскрылі ў Лос-Анжэлесе мексіканскую групоўку з 14 чалавек, якая займалася продажам наркотыкаў.*

Паліцыя канфіскавала буйную партыю какаіну на суму больш за 1,5 мільярда даляраў.

### ЭПІДЭМІЯ ХАЛЕРЫ

*У Албаніі працягвае распаўсюджвацца халера.*

Паводле паведамленняў органаў аховы здароўя, з пачатку верасня ў краіне памерла ад халеры больш за 30 чалавек.

### ГАНДЛЮЮЦЬ... ДЗЕЦЬМІ

*На венгерска-румынскай граніцы былі затрыманы муж і жонка з Вялікабрытаніі.*

Яны купілі ў адной маладой маці ў Румыніі дзіця за 6 тысяч даляраў і спрабавалі выехаць з ім за межы краіны. Маладая пара была асуджана да 28 месяцаў зняволення.

### СУПРАЦЬ ШКОЛЬНІКАЎ – З ДУБІНКАМІ

*У паўночным раёне Турцыі адбыліся моцныя сутыкненні паміж паліцыяй і дэманстрантамі.*

Удзел у дэманстрацыі прынялі ў асноўным школьнікі і студэнты, якія патрабавалі прызнання аўтаноміі паўночнага раёна.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## Кур'ер "ЧЗ"

### Юбілейны месяц

*Юбілейным выдаўся апошні асенні месяц для віцебскіх ВНУ.*

25 лістапада сваё шасцідзесяцігоддзе адзначыць Віцебскі медыцынскі інстытут. За гэтыя гады ў яго сценах было падрыхтавана каля 12 тысяч урачоў і правізараў. Віцебская акадэмія ветэрынарнай медыцыны адзначыла днямі свой 70-гадовы юбілей. На рахунку гэтай вышэйшай навучальнай установы 20 тысяч кваліфікаваных спецыялістаў для сельскагаспадарчай галіны.

### Прыбаўленне ў свеце кніг

*Чарговую штомесячную выстаўку "Беларуская кніга–94" арганізавала Міністэрства культуры і друку.*

На гэты раз у Доме кнігі па праспекце Машэрава была прадстаўлена літаратура, выпушчаная ў кастрычніку бягучага года. Экспазіцыю склалі каля 270 кніг і брашур, 57 з якіх выпусцілі дзяржаўныя выдавецтвы, прычым, больш за 30 — на беларускай мове.

У час работы выстаўкі адбылася прэзентацыя шостага тома "Гісторыі беларускага мастацтва", якім выдавецтва "Навука і тэхніка" завяршыла выпуск гэтага выдання.

### Дзень нараджэння музея

*Сямідзесяціпяцігадовы юбілей адзначыў Гомельскі абласны краязнаўчы музей.*

За гэты час у яго сховішчах сабраны сапраўды бясцэнныя экспанаты, самымі значнымі з якіх з'яўляюцца калекцыі ікон, старажытнадрукаваных кніг, матэрыялы па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і, вядома, памятныя рэчы князёў Паскевічаў, у палацы якіх усе гэтыя гады размяшчаецца музей. Да знамянальнай даты яго работнікі прымеркавалі спецыяльную выстаўку.

**БЕЛІНФАРМ.**

### "Іхнія" сродкі для нашай самаабароны

*Мінская Асацыяцыя "Насельніцтва за бяспеку" наладзіла чацвёртую міжнародную выставу "Бяспека. Крыміналістыка. Правапарадак".*

На ёй прадстаўлены больш за 40 фірм з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Германіі і іншых краін. Сярод прадукцыі, якую дэманструюць удзельнікі,— прыборы для назірання і крыміналістычнае абсталяванне, сейфы і сістэмы сігналізацыі, спецвопратка і сродкі самаабароны. Госці з Германіі, камісары Дзільман і Райман, правялі семінары, на якіх пазнаёмілі з апошнімі нямецкімі сродкамі па крыміналістыцы і працай паліцыі па абароне насельніцтва. Прыехаў на выставу прапагандаваць майстэрства самаабароны і каардынатар Міжнароднай Федэрацыі баявых мастацтваў Майкл Келет са Злучаных Штатаў.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### Валерый Сарока пра сябе і пра свае кнігі...

*На пачатку лістапада ў актавай зале педагагічнага універсітэта адбылася творчая сустрэча студэнтаў ВНУ сталіцы з пісьменнікам Валерыем Сарокам, аўтарам шасці кніжак з серыі "Віцебская справа, або Двухаблічная Феміда", якія апавядаюць пра метады работы правасуддзя.*

Пра творы В.Сарокі, які сам на сабе адчуў знявагі і абразы як падследчы і асуджаны, гаварылі дэкан філалагічнага факультэта гэтага універсітэта С.Карпушын, галоўны рэдактар часопіса "Нёман" А.Кудравец, кандыдат псіхалагічных навук Н.Цыркун і іншыя.

Пра сваё жыццё і працу над сваімі творамі расказаў В.Сарока, які адказаў на шматлікія пытанні чытачоў.

Ён уручыў бібліятэцы універсітэта шэсць кніжак гэтай серыі.

**Пятро ГАРДЗІЕНКА.**

### Затрыманы сяржант міліцыі

*У Брэсце па падазрэнню ў вымаганні супрацоўнікамі ДАІ затрыманы сяржант міліцыі Д., які знаходзіўся за рулём службовай аўтамашыны.*

Прэс-служба ўпраўлення ўнутраных спраў паведаміла, што па гэтаму факту пракуратурай Маскоўскага раёна ўзбуджана крымінальная справа.

**БЕЛІНФАРМ.**

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

**21—27 лістапада**

### СТРАЛЕЦ

Будзьце ўважлівымі на працы ў пачатку тыдня.

Да 25-га лепш устрымацца ад паездак.

Спрыяльны час для ўсіх вашых пачынанняў — 23-га. Стрымлівайце свае эмоцыі. Не раскідвайцеся грашыма.

### КАЗЯРОГ

Магчыма нейкае цудоўнае падарожжа.

Пастарайцеся высветліць усе непаразуменні ў бізнесе да 22-га.

Асцерагайцеся новых знаёмстваў, каб у далейшым не шкадаваць.

### ВАДАЛЕЙ

Будзьце актыўнымі на гэтым тыдні. Больш увагі ўдзяліце сваёй сям'і. Асцерагайцеся ўспышак рэўнасці.

Не вельмі спрыяльныя дні 21-га і 22-га.



### РЫБЫ

У апошнія дні месяца ў вас з'явіцца жаданне пабачыць свет. Хутчэй за ўсё, знойдзецца чалавек, які дапаможа вам у гэтым.

Магчымы перамены на працы ў лепшы бок.

Стрымлівайце свае эмоцыі ў выхадныя.

### АВЕН

Верагодны непрыемныя выпадковасці 21-га і 22-га. Таму ўстрымайцеся ад актыўных дзеянняў.

Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

### ЦЯЛЕЦ

Пастарайцеся вырашыць важныя праблемы ў бізнесе на гэтым тыдні.

Спрыяльны час для падарожжаў 23-га і 24-га.

Наведайце сваіх даўніх знаёмых, якім будзе неабходна ваша дапамога.

### БЛІЗНЯТЫ

Магчыма вам пашанцуе ў справах 22-га і 24-га.

Пасля 25-га з'явяцца новыя планы і перспектывы.

Звярніце ўвагу на вашу нервовую сістэму 26-га і 27-га.

### РАК

Цудоўны час для ўсіх вашых пачынанняў 23-га.

Будзьце ўважлівымі ў дарозе 21-га, 22-га і 26-га.

Правядзіце больш часу ў сям'і. Дапамажыце вашым блізкім.

### ЛЕЎ

Асцерагайцеся новых знаёмстваў у першыя дні тыдня.

Пастарайцеся не сварыцца з каханым і з роднымі.

Кантралюйце свае эмоцыі 24-га і 27-га.

### ДЗЕВА

Пачніце новыя прадпрыемствы 23-га.

Будзьце тактоўнымі ў адносінах з сябрамі і супрацоўнікамі.

Пастарайцеся дамагчыся жаданага.

### ШАЛІ

Пасяховымі будуць справы, пачатыя 28-га.

Звярніце ўвагу на ваша здароўе.

Устрымайцеся ад вялікіх расходаў у канцы тыдня.

### СКАРПІЁН

24-га займіцеся бізнесам.

Захоўвайце ўпэўненасць у сабе 22-га і 26-га.

Магчыма вашы пачынанні падтрымае начальства. Стабілізуецца становішча ў сям'і.

## 9 х 12

# Кожны артыст марыць ведаць...

***Імя народнага артыста Беларусі Генадзя Аўсяннікава добра вядома і не патрабуе асаблівых рэкамендацый. Яго часта можна бачыць на кіна– і тэлеэкранах, акцёра голас нярэдка гучыць у радыёпастаноўках. Трыццаць сем гадоў ужо ён грае на сцэне лепшага тэатра рэспублікі — Купалаўскага.***

***Упершыню ж ён убачыў тэатр у пятнаццаць гадоў. У васемнаццаць паступаў у тэатральна–мастацкі інстытут на курс Канстанціна Саннікава. А да таго яшчэ паспеў павучыцца ў Магілёўскім машынабудаўнічым тэхнікуме і Рыжскім мараходным вучылішчы.***

*— Зараз прынята замоўчваць пра ўзнагароды, атрыманыя ад афіцыйнай улады ў гады "застою". Вы не саромiцеся звання народнага артыста, атрыманага ў 1974 годзе?*

— Не саромеюся. Ні звання народнага, ні сярэбранага медаля імя Папова за роль Цярэшкі Калабка ў "Трыбунале" Макаёнка. Ды й чаму я павінен саромецца? Хіба я выпрошваў тыя ўзнагароды? І хіба ўзганарыўся пасля іх, пачаў хадзіць, задраўшы нос угору?

*— Менавіта з "Трыбуналам", "Крыкам на хутары" і "Мудрамерам" Купалаўскі тэатр ездзіў у мінулыя гады з гастролямі ў Польшчу і Балгарыю. Чым, на ваш погляд, адрозніваўся польскі і балгарскі глядач ад нашага айчыннага?*

— Яны трошкі інакш успрымалі асобныя месцы ў спектаклях, надавалі ім зусім іншы, нейкі свой сэнс. Памятаю, у Польшчы гледачы вельмі бурна рэагавалі на фразу ў спектаклі "Раскіданае гняздо" Купалы:"Аб торбах не павінны забывацца і тыя, хто на пасадах сядзіць". Меліся на ўвазе шляхцічы, а яны ўспрынялі — уласнае дзяржаўнае кіраўніцтва. У Мінску на гэтую фразу ніхто ўвагі не звяртаў. Усходняя Еўропа — справа іншая. Трэба памятаць, што там "бархатныя рэвалюцыі" пачыналіся менавіта з тэатраў.

*— Як ацэньваеце перайменаванне Купалаўскага тэатра ў "Нацыянальны тэатр Беларусі імя Янкі Купалы"?*

— Наш тэатр заўсёды быў сапраўды нацыянальным. Пры ўсім тым, што праўдзівае мастацтва інтэрнацыянальнае. Купалаўскі тэатр — гонар Беларусі. А прысвоенае званне проста дае права на больш высокую аплату работы тых, хто тут працуе.

*— У вас ёсць любімы від спорту, якім захапляліся ў маладосці і якому захоўваеце вернасць дагэтуль?*

— Паднімаць цяжар. Я і зараз, калі ўранку раблю зарадку, практыкуюся на гірах.

*— А якое-небудзь хобі?*

— Няма і ніколі не было. Смешна чуць, калі сцвярджаюць, маўляў, маё хобі — чытанне кніжак. Гэта не хобі, гэта — жыццёвая асэнсаваная неабходнасць!

*— Якую кнігу вы зараз чытаеце?*

— Зборнік апавяданняў Аверчанкі і Тэфі. Наўрад ці здолею растлумачыць, чаму выбраў менавіта гэтую кнігу. Ці раптам можа ўзнікнуць неўтаймаванае жаданне перачытаць Юрыя Алешу. Бяру і перачытваю. Але адвечная любоў — Пушкін. Вы зможаце зараз жа прачытаць мне на памяць хаця б дзесяць пушкінскіх вершаў? А я магу.

*— У вас ёсць любімы фільм, які глядзелі шмат разоў?*

— "Чапаеў". Да дробязей памятаю амаль кожную сцэну адтуль. Асабліва захапляўся першай сцэнай фільма, калі жанчына з легендарным камдывам імчыцца па стэпе... "Чапаеў" застаўся любімым фільмам таму, відаць, што гэта фільм дзяцінства.

*— А як ацэньваеце сучасны айчынны кінематограф?*

— Даволі адмоўна. Экран запоўніла жудасная бездухоўнасць, памножаная на нашу вытворчую жабрацкасць.

*— Калі б вас запрасілі здымацца ў рэкламных роліках, ці згадзіліся б?*

— Не адмовіўся б. Няхай там рэкламуюць што заўгодна, абы толькі знята было выдатна. Хіба кепска гучаў голас нябожчыка Яўгена Лявонава "Трыста працэнтаў гадавых — "Негацыянтбанк"? Адразу ж цэлы вобраз ва ўяўленні ствараецца. Яму і граць нічога не трэба было. Або хіба дрэнна агучваў Інакенцій Смактуноўскі "Сусветную гісторыю" ў рэкламе банка "Імперыял"?

*— Вы цікавіцеся астралагічнымі прагнозамі?*

— Не праяўляю ніякага інтарэсу. Затое мая жонка надзвычай цікавіцца, і лічыць сваім сумленным абавязкам падрабязна пераказваць парады на кожны дзень.

*— Вы верыце ў перасяленне душ або жыццё пасля смерці?*

— Лічу гэтыя тэорыі бязглуздзіцай, і дзіўлюся тым людзям, якія ставяцца да гэтага сур'ёзна.

*— Дзе любіце праводзіць адпачынак?*

— Любіў у Сочы. Апошні раз ездзіў туды ў пазамінулым годзе, перад самым пачаткам вайны ў Абхазіі і Грузіі. На свае вочы бачыў, да якой ступені там узвінчана мясцовае насельніцтва, зразумеў, што зноў прыехаць сюды адпачыць змагу не хутка.

*— Якія выданні выпісваеце?*

— Толькі "Литературную газету".

*— Вы цікавіцеся палітыкай? Сочыце па тэлевізары за пасяджэннямі нашага парламента?*

— Гляджу, але адчуваю сябе пры гэтым, як балельшчык на стадыёне. Часам у Авальнай зале разыгрываецца сапраўдны спектакль, у якім пачуцці ўдзельнікаў шчырыя, а іх дзеянні непрадказальныя. Засмучае, праўда, кепскае веданне нашымі парламентарыямі беларускай мовы. Надта рэжа вуха іх "трасянка".

*— Якой драматургіі належаць вашы сімпатыі — сучаснай ці класічнай?*

— Класіка добрая тым, што ў ёй адсутнічаюць дрэнна выпісаныя ролі. Але я перайграў і ўсе п'есы нашага сучаснага драматурга Андрэя Макаёнка, у якога, як правіла, ролі характарныя, каларытныя. Самае галоўнае, думаецца мне, каб у прынятай да пастаноўкі п'есе былі характары, было каго іграць.

*— Ваш сябар Віктар Тарасаў выступіў мастацкім кіраўніком пастаноўкі "Саўдзельнікі" паводле Гётэ. Вы самі ніколі не адчувалі жадання паспрабаваць сябе ў якасці мастацкага кіраўніка?*

— Ніколі. Мяне заўсёды задавальняла акцёрскае рамяство. А з Віцем Тарасавым мы сябруем ужо больш чым сорак гадоў. Разам паступілі ў 1953 годзе ў тэатральна-мастацкі інстытут. Першы семестр вучобы яго ўсё ніяк не маглі забяспечыць інтэрнатам. Дык прыходзілася разам спаць на маім ложку. Тады ж разам і сыгралі ў вучэбнай пастаноўцы "Лесу". Я там іграў Аркашу Шчасліўцава, а ён — артыста Нешчасліўцава. З той пастаноўкі і па сённяшні дзень Віктар звяртаецца да мяне не інакш, як "Аркаша".

*— Які ваш любімы час дня?*

— Вечар. Вечарамі ранняй восені, калі яшчэ трошкі імжыць дожджык, прыемна ісці на спектакль.

*— Вы верыце ў якія-небудзь прыкметы?*

— Не асабліва. Але перад кожнай прэм'ерай абавязкова тройчы стукаю па дрэве стала на ўдачу.

*— У вас часта з'яўляецца адчуванне, што вы цалкам кантралюеце ўвагу глядзельнай залы?*

— Яркі паказчык у гэтых адносінах — старшакласнікі, якіх водзяць на нашы спектаклі. Публіка гэтая вельмі неўтаймаваная, і калі ёй штосьці не падабаецца, у зале не сціхае гул. Калі ж школьнікі змаўкаюць і сочаць за дзеяннем на сцэне, значыць, спектакль ідзе добра. Значыць, і я чагосьці дамогся, калі авалодаў іх увагай.

*— А як адчуваеце сябе пасля спектакля?*

— Калі вяртаюся дадому, доўга не магу заснуць. У думках дайгрываю пра сябе тое, што варта было зрабіць, але, як здалося, не зрабіў.

*— Дзякуй вам за цікавую размову. Поспехаў і апладысментаў.*

**Гутарыў Ягор Конеў.**

## ВЫСТАЎКІ

Ва Уруччы, у Палацы лёгкай атлетыкі, прайшла выстаўка сабак з незвычайнай назвай "Пэпі-шоу". Лепшыя пароды атрымалі права выступіць на парадзе "Бэсці-шоу", дзе атрымалі свае першыя медалі. А закончылася праграмакасцюміраваным балем.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.**



## СПОРТ

### Цуду не адбылося. На жаль

Канчатковы зыход сустрэчы ў рамках адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Нарвегіі не мог сасніць у кашмарным сне нават самы апошні песіміст — 0:4. Згадзіцеся, для выпадковасці мнагавата.

Як вядома, перад матчам галоўны трэнер "вікінгаў" Эгіл Ольсэн без залішняй сарамлівасці заявіў, што яго гадаванцы прыехалі ў Мінск перамагаць. На жаль, словы са справай не разышліся. Першыя хвілін дваццаць, свядома саступіўшы гульнявую ініцыятыву, нарвежцы "прыглядаліся" як да гаспадароў, так і да поля (яно, дарэчы, за гэты час ужо паспела набыць выгляд свежаўзаранага агарода). Але адчуўшы, што наша каманда, мякка кажучы, нічога сур'ёзнага прапанаваць не ў стане, госці асмялелі. Не, мячом па-ранейшаму больш валодалі беларусы, але да варот сапернікаў ён чамусьці амаль не даходзіў. Затое Валерыю Шанталосаву прыходзілася працаваць. Але менавіта галкіпер гаспадароў зрабіў зусім не "абавязковую" памылку, у выніку чаго на 35-й хвіліне нарвежцы атрымалі права на вуглавы. Падача — і мяч у штрафной "адшуквае" галаву Хеніка Берга. Не праходзіць і пяці хвілін, як Леанардсан удала выкарыстоўвае адскок ад штангі нашых варот — 0:2.

На пачатку другога тайма для гаспадароў бліснуў праменьчык надзеі, калі Юрый Антановіч апынуўся сам-насам з варатарам нарвежцаў. Не пашанцавала — штанга. Але шанцуе, як правіла, мацнейшым. У гэтым літаральна праз некалькі хвілін пераканаў паўабаронца гасцей Бохінен, які давёў лік да буйнога. Хаця і яна канчаткова стала непрыемнай пасля рэалізаванага гасцямі пенальці — кропку паставіў Рэкдал.

Такім чынам, паклаўшы руку на сэрца, трэба прызнацца: 16 лістапада перамог той, хто меў на гэта больш права.

**Сяргей ГРЫБ.**

**Фота Сяргея БРУШКО.**

## КРЫЖАСЛОЎ



### ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:

5. Вядомы мастак-гумарыст, лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі. 6. Горад-дзяржава, порт. 9. Мазь, якую атрымліваюць з нафты. 10. Воінскае званне афіцэра флоту. 12. Фігура вышэйшага пілатажу. 13. Збудаванне для рамонту суднаў. 14. Нябеснае цела Сонечнай сістэмы. 15. Спартыўная гульня. 18. Стваральнік. 19. Від антылопы. 20. Раённы цэнтр Рэспублікі Беларусь. 23. Прыватная ўласнасць на зямлю. 27. Усходнесібірскі алень. 29. Француз, Герой Савецкага Саюза, удзельнік баёў за вызваленне Беларусі. 31. Крывяносны сасуд. 33. Майстар меткай стральбы. 34. Газ. 35. Бытавая паслуга. 36. Паток вады, які імкліва падае з вышыні. 37. Механізм для пад'ёму грузу. 38. Фаза Месяца. 39. Чалавек, схільны да летуценнасці.

### ПА ВЕРТЫКАЛІ:

1. Спартыўны снарад для развіцця мышцаў. 2. Лёгкая незласлівая насмешка. 3. Вучэнне аб захаванні здароўя. 4. Музычны твор. 5. Вучоная ступень. 7. Жанр журналістыкі. 8. Абследаванне нетраў зямлі. 9. Ступень акіслення рэчыва. 11. Збожжаўборачны камбайн. 12. Спецыяліст па ваджэнню караблёў. 15. Музычны інструмент. 16. Пшанічны хлябец. 17. Гераіня аповесці Б.Васільева "А досвіткі тут ціхія...". 21. Самая буйная ў Еўропе група народаў. 22. Член грамадства. 24. Правіла рашэння задач. 25. Беларускі народны танец. 28. Аўтамат. 29. Назва чарніла. 30. Герой казкі К. Чукоўскага. 32. Саюз некалькіх сем'яў са сваяцкімі адносінамі. 33. Від боепрыпасаў для стральбы. 36. Беларускі скульптар, аўтар манументальнай кампазіцыі "Рэйкавая вайна", "Юныя мсціўцы".

**Склаў Валерый ПІНЧУК, г.Бабруйск.**

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАСЛОЎ, змешчаны ў №123

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

6. Левітан. 9. Жалеза. 10. Буклет. 11. Манеўр. 12. Берлін. 14. Васал. 16. Вавілаў. 17. Адліў. 21. Ажына. 22. Тапаз. 23. Скупшчына. 24. Флора. 25. Шуман. 28 Крашэ. 31. "Карнікі". 32. "Садко". 34. Чардаш. 35. Ягдташ. 37. Мікрон. 38. Зайцаў. 39. Полазаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Зераўшан. 2. Хіль. 3. Мармелад. 4. Навука. 5. Ізмаіл. 7. Вуліца. 8. Феліні. 13. Мілашкіна. 15. Сажалка. 18. Леапард. 19. Пасад. 20. Аташэ. 26. Тапаркоў. 27. Скагерак. 29. Роспіс. 30. Эталон. 32. Слалам. 33. Каштан. 36. Гуаш.



### КІТАЙ – ПАД ЭМБЛЕМАЙ ПІВОНІ

*У Кітаі прайшоў конкурс, на якім выбіралася нацыянальная кветка краіны.*

"Пераможцай" стала півоня, якая абышла сваіх бліжэйшых "сапернікаў" — лотас, хрызантэму і сліву.

### УАНДЭР – У ДАПАМОГУ ГАЛАДАЮЧЫМ

*Сціві Уандэр заявіў, што збіраецца пералічыць даходы ад сваіх новых песень на карысць галадаючых.*

Спявак таксама плануе ажыццявіць турнэ, сродкі ад якога пойдуць у фонд дабрачыннай арганізацыі "Міласэрнасць супраць голаду".

### АКЦЫЯ Ў ПАМЯЦЬ МЕРК'ЮРЫ

*Прыхільнікі лідэра групы "Queen" Фрэдзі Мерк'юры, які памёр 24 лістапада 1991 года ад СНІДу, выйшлі на вуліцы Лондана з дабрачыннай акцыяй.*

Да 1 снежня — Міжнароднага дня прафілактыкі СНІДу — яны маюць намер сабраць 150 тысяч даляраў для дзяцей з Уганды, якія засталіся сіротамі пасля смерці сваіх бацькоў ад СНІДу.

### МАНУСКРЫПТ АДПРАВІЦЦА Ў ТУРНЭ

*У Нью-Йорку прайшоў аўкцыён Крысці, на якім быў выстаўлены манускрыпт Леанарда да Вінчы "Кодэкс Хамера".*

Уладальнікам рукапісу стаў амерыканскі мультымільянер Біл Гейтс, які заплаціў за яго 30,8 мільёна даляраў. Паводле слоў Гейтса, ён збіраецца прадставіць "Кодэкс" для паказу ў буйнейшых музеях свету.

### "БЕЛАСНЕЖКА" – РЭКАРДСМЕНКА

*Усяго за тры тыдні кампанія Уолта Дыснея зарабіла 300 мільёнаў даляраў, прадаўшы 17 мільёнаў відэакопій мультфільма "Беласнежка і сем гномаў".*

Па хуткасці продажу ён пабіў усе рэкорды сярод мультфільмаў. "Беласнежка і сем гномаў" уваходзіць, паводле агульнага прызнання, у тройку лепшых мультфільмаў разам з "Аладзінам" і "Прыгажуняй і пачварай".

### "ГАЛІВУД" НЕ ДАРАВАЎ

*Арнольд Шварцэнегер, Сільвестр Сталоне і Брус Уіліс, якія валодаюць шэрагам рэстаранаў "Планета Галівуд", падалі ў суд на свайго "саперніка".*

Ім аказаўся маленькі рэстаранчык пад той жа назвай.

### СТАЙП ЗОЙМЕЦЦА РЭЖЫСУРАЙ

*Лідэр групы R.E.M. збіраецца заснаваць у Галівудзе новую кінакампанію.*

Паводле слоў Майкла Стайпа, ён хоча ствараць цудоўныя фільмы "зусім як "ружовы" рок 70-х гадоў". Новая студыя будзе называцца "On Line".

### НОВЫ ІМІДЖ ВАН ДАМА

*Жан Клод Ван Дам разам з музыкантам Хамерам здымаецца ў фільме "Вулічны баец".*

Ён танцуе і спявае разам з Хамерам, і, паводле слоў акцёра, новы фільм для яго — спроба змяніць свой імідж.

### ДЖУЛІЯ ЭНДРУС ВЯРТАЕЦЦА

*Джулія Эндрус пасля доўгага перапынку зноў вяртаецца на экраны ў адной з галоўных роляў у фільме "Віктар Вікторыя".*

Паводле слоў артысткі, яна ўпэўнена ў поспеху фільма, які зняты 59-гадовым мужам зоркі Блейкам Эдвардсам. Прэм'ера фільма адбудзецца ў Бостане ў наступным месяцы.

